# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 16 16 красавіка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

(2262) Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

*ЗЕМЛЯКІ ГАСЦЮЮЦЬ У БЕЛАРУСІ*



## ДУША АДТАЯЛА, АБАГРЭЛАСЯ?

Ірэне Каляда-Смірноў з амерыканскага горада Кліўленда з паездкай на радзіму пашанцавала. Яна ляцела ў сваю Беларусь прамым авіярэйсам Нью-Йорк—Мінск. У чым жа яе шанцаванне, пацікавіцца чытач. А ў тым, што да самага апошняга часу самалёты да нас з Амерыкі, ды і з многіх іншых краін, не ляталі і ад нас, адпаведна, таксама. Як трэба каму, то калі ласка: спачатку ў Маскву або Ленінград. А там вядома, які сервіс: змардуешся ўшчэнт. Так што спадарыні Ірэне сапраўды пашанцавала. Акрыленая і перапоўненая пачуццямі, яна спусцілася з трапа, шукаючы вачыма сяброў, якія абяцалі сустрэць.

Няцяжка ўявіць, што перажыла жанчына за гадзіну чакання ў аэрапорце. Уявіце, чакаць сустрэчы амаль 50 гадоў і потым яшчэ цэлую гадзіну! Яна ж не ведала, што самалёты лятаюць па маскоўскім часе, а Беларусь жыве па сваім, мясцовым, які на гадзіну адрозніваецца ад маскоўскага. Але не будзем больш пра непрыемныя нечаканасці. Далей былі толькі прыемныя.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

**НА ЗДЫМКУ: сустрэча нашай суайчынніцы з ЗША Ірэны КАЛЯДЫ-СМІРНОЎ з братам Леанідам у Навагрудку.**

*ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ*

## ЦІХАЕ ВЯРТАННЕ

Сярод беларускіх гісторыкаў яшчэ якіх гадоў дзесяць назад цяжка было знайсці каго-небудзь, хто б спадзяваўся, што на парозе — вяртанне з нябыту імёнаў выдатных людзей Беларусі, што неўзабаве стануць вяртацца ў жыццё старыя, адвечныя назвы нашых гарадоў і больш дробных паселішчаў, што не за гарамі той час, калі адна за другой знікнуць штучныя назвы нашых вуліц, плошчаў, гаспадарак і ўстаноў, звязаныя з чужой гісторыяй ці з так званым рэвалюцыйным мінулым, з эпохай «велічных сацыялістычных здзяйсненняў». Між тым ужо ў Старажытным Рыме ў грамадстве прыйшлі да глыбокай высновы, што гісторыя заўжды з'яўляецца мудрай настаўніцай сацыяльна-палітычнага жыцця.

У сувязі з гэтым паўстае, натуральна, шэраг непазбежных пытанняў. Спынімся на некаторых. Першае: як жа так атрымалася, што згуртаваныя раці нашых грамадазнаўцаў-гісторыкаў, шчодра ўквечаных самымі высокімі навуковымі званнямі і разнастайнымі тытуламі, змаглі прамаргаць, не заўважыць ані хоць бы прыкметных істотных працэсаў, якія ўжо заўтра атрымаюць усёахопнае і вызначальнае развіццё? Пытанне наступнае: чаго вартыя такія, з дазволу сказаць, гісторыкі, якія нават збольшага не здатны ўвогуле адчуваць поступ часу ў далёкай і не вельмі далёкай мінуўшчыне, якія з сур'ёзным выглядам літаральна ўсё збіраліся вытлумачыць, хвацка карыстаючыся сваёй адзінай палкай-выручалкай — цытатамі класікаў абвешчанага бессмяротным вучэння? Адказваць на другое пытанне сёння, відаць, ужо і не трэба. Але адзначым, што і зараз псеўдагісторыкі цвёрда знаходзяцца пры сваіх ранейшых пасадах. Нясуць, як учора, лухту з кафедраў ці карчаць над «даследаваннямі». Найбольш спрытныя з іх у шапку не спяць: узброіўшыся да зубоў дэмагагічнымі штампамі, імкнуцца што б там ні было выставіць сябе ледзь не дэмакратамі з дэмакратаў, а то і

(Заканчэнне на 7-й стар.).

Масей СЯДНЁЎ

## СЬМЕРЦЬ МУЗЫКІ



*Памяці Міколы РАВЕНСКАГА*

**Замоўкла Беларусь на струнах кволай леры,
і лернікі натхнення адыйшлі...
Як страшна ўсё-ткі: колькі засталося
і мне, самотнаму, часінак тых!
Хацеў-бы ведаць я перад канцом,
які пачатак за канцом наступіць!
Ці сьмерць, нарэшце, азначае сьмерць,
ці мо' па сьмерці ёсьць яшчэ што-небудзь —
напрыклад: боль, цярпеньне, асалода!
Ці мо' нічога болей я ня буду адчуваць
І неканкрэтным толькі застануся,
без хваляваньня, радасьці й хаценьня,
як непатрэбная сама і для сябе сьвядомасьць!
Хто даў-бы мне на гэта ўсё адказ,
пакуль 'шчэ ў ненапаленым пакоі
магу заўважыць я дымок майго дыханьня.
Не, не — ня трэба мне ніякага адказу —
лягчэй мне будзе, калі сам сябе я падманю
І з лёгкай вераю паверу ў тое,
чаго, магчыма, і... няма.**

**Чым сьмерць бліжэй, тым болей жыць хачу.
Даруй мне, Госпадзі, — яшчэ мяне Ты
да сьмерці, як належыць, не давёў.
Калі-б Ты даў пражыць яшчэ адно жыцьцё —
ад самага пачатку й да канца, —
ішоў-бы толькі я дарогамі Тваімі
і быў-бы для Цябе, магчыма, больш дастойным.
А так — няўтольнага мяне Ты забіраеш:
Ты бачыш Сам, яшчэ гарыць на вуснах песьня —
хвала Табе і ўсенькаму Твайму тварэньню.**

**У дзьверы стукаецца хтосьці — калі ласка.
Ага — ну вось і моладзь завітала!
Дадзела мне выгнаньніцкая адзінота,
і рады я, што вы прыйшлі са мною разьвітацца.
«О не, не разьвітацца — каб запэўніць вас,
што зьдзейсьнім мы ўсё, чаго вы не пасьпелі!..»
Вось дзякую ўжо вам. Зашмат мы дэкляруем —
прысяга нашая гучыць, як прапаганда.
А слоў, прыгожых слоў і шчырых, мы ня маем.
Ня цяжка на сьцягох, і пышных і ўрачыстых,
свабоду напісаць і незалежнасьць,
цяжэй — пайсьці за гэта ўсё на бітву.
Мы славай упіваемся мінулай
і даўняе, як мару, ускрашаем,
а дзень сягоняшні мінае без заваяваньняў.
І безнадзейна мы чакаем на героя,
на будучыню па-наіўнаму спадзяючыся.
Ах, памыліліся—б вы лепей — цікавей,
калі душа сама сабе спажытак знайдзе.
Даруйце — стаіцё вы, быццам сьцяганосцы,
што на ўрачыстасьць толькі пранясуць
штандар па вуліцах і зноў у кут яго паставяць.
Баюся я ўжо — на зямлі зусім
зьвядуцца песьняры і гордыя музыкі.
Ды што я гавару — чужога места
завулкі-вуліцы й мяне забудуць,
дарма, што я хадзіў па іх задумны і натхненны.
Званы на вежах звон свой пачынаюць —
зьбліжаецца дванаццатая, зараз, во...
Як гэта будзе!... Божа мой.. Яшчэ
я пра Цябе як трэба й не падумаў...**

**Да самай раніцы ў пакойчыку гарэлі сьвечы,
запаленыя зьвечару натхненьнем паслухмяным,
і між сабой, як шчырыя сяброўкі,
пра нешта невядомае шапталі мігатліва.**

*1954 г.*

Нарыс «Цярністы шлях Міколы РАВЕНСКАГА» пачынаем друкаваць з сённяшняга нумара, 6-я стар.

АФІЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ

## АГУЛЬНЫ ІНТАРЭС

У Мінску адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларускага парламента на чале з Пятром Садоўскім і дэлегацыі Літвы на чале з Рамуальдам Озаласам.

Абмеркаваны эканамічныя і палітычныя адносіны паміж рэспублікамі, пытанні межаў і культурнай спадчыны абодвух народаў, становішча беларусаў у Літве і літоўцаў у Беларусі. Прынята сумеснае камюніке, на падставе якога пазней і будуць распрацоўвацца міжурадавыя пагадненні ў галінах адукацыі, культуры і інфармацыі.

Літоўскі і беларускі бакі пагадзіліся, што беларусы ў Літве і літоўцы ў Беларусі з'яўляюцца не мігрантамі, а аўтахтонным насельніцтвам засяляемых імі краёў. Падкрэслена неабходнасць абмену паміж рэспублікамі тэле- і радыёінфармацыяй, аднаўлення беларускага музея ў Вільні, стварэння літоўскага культурнага цэнтра ў Мінску. Засведчана таксама жаданне як мага хутчэй устанавіць поўныя дыпламатычныя адносіны паміж Беларуссю і Літвой на ўзроўні консульстваў або пасольстваў.

ВЫНІКІ ВІЗІТУ

## ДАЛУЧЭННЕ ДА ПАРЫЖСКАЙ ХАРТЫІ

Рэспубліка Беларусь першай з краін — членаў СНД далучылася да Парыжскай хартыі для новай Еўропы — такі галоўны вынік праведзеных у Елісейскім палацы перагавораў паміж прэзідэнтам Францыі Франсуа Мітэранам і Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславам Шушкевічам.

«Падзея, якую мы перажываем цяпер, азначае нараджэнне новай эпохі, — заявіў прэзідэнт Францыі пасля падпісання дакумента. — Беларусь стала першай рэспублікай былога Савецкага Саюза, якая, стаўшы на шлях незалежнасці, далучаецца да саюза Еўропы, каб разам з іншымі еўрапейскімі дзяржавамі працягваць намаганні на міжнароднай арэне».

РАДОВІШЧЫ

## БУДЗЕМ БУРШТЫНАВАЙ РЭСПУБЛІКАЙ?

Беларусь мае рэальную магчымасць здабываць уласны бурштын. Яго выявілі ў Жабінкаўскім, Кобрынскім, Камянецкім, Івацэвіцкім, Бярозаўскім, Маларыцкім, Іванаўскім, Пінскім і Лунінецкім раёнах палявыя практыкі і навуковыя экспедыцыі выкладчыкаў і студэнтаў Брэсцкага педінстытута.

Нядаўна атрыманы першыя вынікі праверкі студэнцкіх геалагічных пошукаў спецыялістамі-геолагамі. Толькі на адным участку, указаным студэнтамі і вучонымі, запасы бурштыну вызначаны прыблізна ў 200 тон. Па сваёй якасці ён аналагічны прыбалтыйскаму і залягае на глыбіні ад двух да дзесяці метраў. Кошт гэтага радовішча спецыялісты ацэньваюць больш чым у 500 мільёнаў рублёў. Калі ж перапрацаваць яго ў ювелірныя вырабы, то цана ўзрасце да трох - чатырох мільярдаў. І гэта толькі па аднаму з перспектыўных участкаў. Мяркуемая распрацоўка і здабыча бурштыну на Палессі абяцае немалую выгаду.

АБ РЭФЕРЭНДУМЕ

## ЗАКОН ЁСЦЬ ЗАКОН

Першую прэс-канферэнцыю на пасадзе старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі рэспублікі даў Аляксандр Абрамовіч. Яна закранула ход подпіснай кампаніі за правядзенне ў Беларусі рэферэндуму аб роспуску цяперашняга Вярхоўнага Савета і выбараў новага парламента на шматпартыйнай аснове.

Калі ініцыятарам кампаніі ўдасца сабраць 350 тысяч галасоў, як таго патрабуе закон, то ігнараваць свабоднае волевыяўленне грамадзян недапушчальна.

Аднак не ўсё проста ва ўзнікшай сітуацыі. Абрамовіч лічыць, што Закон «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Беларусі» не адэкватны рэальнасці. Частка трэцяя адзінаццатага артыкула стала бар'ерам для рэалізацыі яго ў жыццё. У ёй гаворыцца, што «кожны падпісны ліст павінен быць завераны старшынёй і членам ініцыятыўнай групы, якія ажыццяўляюць збор подпісаў...» Выходзіць, старшыні адзінай ініцыятыўнай групы Уладзіміру Анцулевічу трэба будзе засведчыць асабістым подпісам кожны падпісны ліст.

— Цяпер трэба прыкласці ўсе намаганні, каб неправавая норма, закладзеная ў законе, была зменена, — сказаў Аляксандр Абрамовіч.

У адказах на шматлікія пытанні журналістаў Абрамовіч даў зразумець, што ў сваёй дзейнасці ў Цэнтральнай выбарчай камісіі ён будзе кіравацца прававымі метадамі вырашэння спрэчных праблем.

*«Задыхаемся не ад свабоды, а ад неразбярыхі. Ёсць процьма пытанняў, вострых, балючых, якія даўно і надзейна блакіруюць рух наперад, але вырашэнне якіх патрабуе скаардынаваных, узгодненых, асвячоных заканадаўствам дзеянняў. Раздзяржаўленне сродкаў вытворчасці, прыватызацыя, абарона інтарэсаў грамадзян, развіццё камунальнай гаспадаркі — пра ўсё гэта шмат размоў, але вельмі мала практычнага клопату. Можна, вядома, стаць на даўно выпрабаваны чалавецтвам шлях вынаходніцтва веласіпеда, назваўшы гэта ініцыятыўнасцю, але ў выніку ўсе сілы пойдуць на распрацоўку даўно вядомага, адпрацаванага. Мы, старшыні Саветаў буйных гарадоў, пайшлі на змушаны крок — аб'ядналіся, стварылі каардынацыйны савет, каб хоць неяк чынам кампенсаваць адсутнасць у рэспубліцы надзейнай улады, зацікаўленай у паўнацэнным, хуткім развіцці ўсіх рэгіёнаў».*

*Г. КАРПЕНКА, старшыня гарадскога Савета Маладзечна, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.*

БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

## НЕ ПАТРАБУЕМ, А ПРОСІМ

На пасяджэнні Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны прыняты зварот да старшыні гарсавета спадара Аляксандра Герасіменкі, усіх кіраўнікоў гарадскога і прыгараднага транспарту.

Спасылаючыся на адпаведныя артыкулы Закона аб мовах і пастановы Саўміна рэспублікі, ТБМ просіць паскорыць рэальны перавод службова-сервіснай інфармацыі ў аўтобусах, тралейбусах, трамваях, электрычках, на аўтавакзалах і чыгуначных вакзалах сталіцы на родную мову. Як падкрэсліваецца ў звароце, гарадское таварыства ТБМ прапануе свае супрацоўніцтва дзяржаўным і ведамасным структурам, каб стварыць на транспарце беларускамоўнае асяроддзе.

КОНКУРС

## ПОМНІК СЛУЦКІМ ПАЎСТАНЦАМ

Як паведаміла газета «Добры вечар», сябры Мінскага грамадска-асветніцкага клуба «Спадчына» на адным з апошніх сваіх пасяджэнняў прынялі рашэнне абвясціць конкурс на лепшыя праекты манумента героям Слуцкага паўстання супраць бальшавіцкай дыктатуры ды іншых помнікаў асобным дзеячам гэтай гістарычнай падзеі. Скульптуры затым будуць устаноўлены ў Слуцку.

ПРАФСАЮЗНЫЯ СУВЯЗІ




Савет Аб'яднання галіновых прафсаюзаў Мінскай вобласці падтрымлівае шырокія міжнародныя сувязі з калегамі з Японіі, Польшчы, Германіі і іншых краін. Нядаўна беларусы прымалі дэлегацыю з рэгіёна Альб-Донаў-Ульм (Германія). Госці знаёміліся з работай прафарганізацый Інстытута траўматалогіі, вытворчага аб'яднання БелаўтаМАЗ, наведалі мемарыяльны комплекс «Хатынь», падпісалі дагаворы аб узаемных сувязях.

НА ЗДЫМКУ: перад сустрэчай нямецкіх гасцей у савеце Мінскага абласнога Аб'яднання галіновых прафсаюзаў.

«МІНСКІ КІРМАШ. ВЯСНА-92»

# НЕ СТАРОННІМІ НАГЛЯДАЛЬНІКАМІ



Міжнародны кірмаш прайшоў у выставачным комплексе «Мінскэкспа» Гандлёва-прамысловай палаты Рэспублікі Беларусь. На ўдзел у ім падалі заяўкі 434 прадпрыемствы ўсіх форм уласнасці з Бельгіі і Кітая, Германіі і Швейцарыі, рэспублік былога Саюза. Найбольшая ж колькасць экспанатаў была прадстаўлена беларускімі прадпрыемствамі і асобнымі прадпрымальнікамі. Аўтамабілі, станкі, відэатэхніку, абутак, адзенне і шмат іншага можна было ўбачыць на кірмашы. Кожны наведвальнік мог выбраць сабе патрэбную рэч. Скажам, рыбак — паплаўкі, лёскі, аматар— кінжал у пасярэбраных ножнах, зроблены ў Грузіі...

Але мы яшчэ раз падкрэслім слова — мог. І дадздзім: калі дазвалялі ўласны кашалёк. Бо многія тавары былі, на думку наведвальнікаў, занадта дарагімі. Возьмем люстры (а іх было на кірмашы вельмі шмат і з многіх краін!), сярэдні кошт якіх каля 9 тысяч рублёў проста палохаў жадаючых купіць гэтыя вырабы. Ці жаданне некаторых фірм прадаваць свае вырабы толькі за валюту, як гэта рабіла сумеснае беларуска-італьянскае прадпрыемства «Белвест».

Радавалі экспанаты вытворцаў нашай рэспублікі. З кожнай выставай, з кожным кірмашом яны ўсё больш і больш аўтарытэтна заяўляюць пра сябе.

Напрыклад, хто ведаў пра Слуцкую абутковую фабрыку яшчэ ўсяго нейкіх пяць гадоў назад? А сёння яна на кірмашы была ў цэнтры ўвагі дзелавых людзей. Модніцам даспадобы прыйшліся дэмісезонныя боцікі, туфлі мужчынскія з задавальненнем абуў бы і франт...

— Як вам удалося дасягнуць такіх добрых вынікаў? — спытаў у дырэктара фабрыкі Ганны Сучок.

— Перабудова прадпрыемства, уменне знайсці надзейных партнёраў, што пастаўляюць нам і сыравіну, і тэхналогіі. У першую чаргу, супрацоўніцтва з фірмамі Арменіі і Польшчы.

Беларускія тэлевізары, электравымяральная тэхніка, апараты сувязі заводаў «Прамсувязь», «Гарызонт», абутак... — вось далёка не поўны пералік экспанатаў, якія з задавальненнем куплялі ці заключалі здзелкі на іх пакупку на кірмашы як айчынныя, так і замежныя дзелавыя людзі. Значыць, мы былі тут не староннімі наглядальнікамі.

Гандаль, аднак, не стаў на кірмашы самамэтай для многіх прадпрымальнікаў. Наш стары знаёмы прадстаўнік Чыстапальскага завода Тагір Уруджаў («Голас Радзімы» пісаў аб ім летась) сказаў, што прыехаў у Мінск не прадаваць узоры сваіх вырабаў, а абмяняцца вопытам з роднаснымі прадпрыемствамі, лепш вывучыць вырабы іншых прадпрыемстваў, набыць неабходную тэхналогію, пазнаёміцца з навінкамі суседзяў-сапернікаў. І такую магчымасць ён меў, бо ў кірмашы прымалі ўдзел многія роднасныя заводы Мінска, Пензы, Ленінградскай вобласці...

Семінары, абмены вопытам, культурная частка, знаёмства з Мінскам — вось далёка не поўны пералік усяго таго, што было прапанавана ўдзельнікам кірмашу.

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

НА ЗДЫМКУ: экспазіцыя Мінскага завода пластмасавых вырабаў.

Фота В. СТАВЕРА.

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

# НЕ АДРАКАЮСЯ НІ АД ЧАГО

## ГУТАРКА З ПІСЬМЕННІКАМ, БЫЛЫМ РЭДАКТАРАМ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» Леанідам ПРОКШАМ З НАГОДЫ ЯГО ЮБІЛЕЮ

Гаварыць чытачу «Голасу Радзімы», хто такі Леанід Прокша, няма патрэбы. У яго шмат сяброў сярод суайчыннікаў за межамі Беларусі, нямала і ідэйных праціўнікаў. Ён ужо даўно на пенсіі, жыве ў просценькай кватэры-«хрушчоўцы», у якую ні разу, калі яшчэ быў рэдактарам «Голасу Радзімы» і «ЛіМа», не асмеліўся запрасіць ніводнага беларуса «адтуль», бо сорамна было прызнацца, што такія варункі мае савецкі пісьменнік. Але гэта яго заўсёды найменей турбавала. Як на свае гады (а 6 красавіка Леаніду Януаравічу Прокшу споўнілася 80), дык ён выглядае моцным, здаецца, жыццё яго не здольна сагнуць. Хаця ў тым жыцці было ўсё.

«Каб пагнацца за славай, — прызнаўся ён мне ў час нашай працяглай гутаркі, — я цяпер мог бы выстаўляць свае крыўды: жонка мая, Ірына Адамаўна, — дачка «ворага народа»; за тое, што я не паслухаўся райкомаўскіх кіраўнікоў — не жаніся! — мяне выключылі з камсамола. Потым, калі я быў ужо ў арміі, рэабілітавалі. Пасля арміі пачаў працаваць у «Віцебскім рабочым», пайшоў станавіцца на камсамольскі ўлік, а мне на бюро вынеслі рашэнне аб палітычным недаверы. А гэта азначала, што за мной могуць прыйсці ў любую ноч. Забралі аднаго брата, схапілі другога. Але да мяне не дайшло: Сталін крыху прытармазіў рэпрэсіі. Я не магу адкінуць тое жыццё, што пражыў, але не хачу дадаваць сваю кроплю да таго ачарнення мінулага, якое цяпер адбываецца».

Так, Леанід Прокша не кідаецца, як гэта спрэс робяць партыйныя саноўнікі, не пашываецца ў дэмакраты, што цяпер вельмі модна, асабліва ў вялікай палітыцы, ды і сярод таго ж брата-пісьменніка. Ён застаўся такім, якім быў заўсёды — чалавекам, які мае сваю галаву на плячах, свой стрыжань, свой устойлівы светапогляд. У яго на ўсё ёсць свая думка.

Публіцыст, дзіцячы пісьменнік, Леанід Прокша ўсё ж найперш вядомы і там, за мяжой, і тут, на Бацькаўшчыне, як майстар сатырычнага жанру — аўтар шматлікіх памфлетаў і фельетонаў, прысвечаных так званым беларускім буржуазным нацыяналістам. З гэтых трох слоў Прокша ўтварыў адно — бебурнацы і пусціў гуляць яго па старонках газет і кніжак. А яно вазьмі ды і прыжывіся ў лексіконе, ды не толькі нашым, а і ў беларускім замежным друку, «бебурнацы» сустракаюцца спрэс. Але насталі іншыя часы, па-іншаму цяпер трактуецца паняцце «нацыяналізм», а былыя нацыяналісты сёння ўспрымаюцца ў нас як эталон беларуса і беларускасці. Выходзіць, тое, пра што пісаў Прокша, цяпер нікому не патрэбна? Больш таго, свае ж абвінавачваюць яго ў тым, што ён «ачарняў эміграцыю». Дык ці не зракаецца аўтар усяго ім напісанага пра эміграцыю? Пра гэта я і спытаў Леаніда Януаравіча на пачатку нашай гутаркі.

— Я не адракаюся ад таго, што пісаў пра бебурнацаў. І журналісцкая, і пісьменніцкая праца не была дарэмнай. Лічу, што не абразіў ніводнага сумленнага чалавека — былых ваеннапалонных, маладых, дзяўчат і хлопцаў, вывезеных акупантамі ў Германію, людзей, якіх проста закінула ваенная віхура на Захад.

Пра каго я пісаў? Пра Ф. Кушаля. Але ж Кушаль быў афіцэрам СД. Вось кніжка, якую мы пра яго выдалі. Я тут нічога не прыдумаў — толькі дакументы, якія былі даступныя мне ў той час. Яго загады, рапарты нямецкаму камандаванню, фотаздымкі. Кажуць, што цяпер ёсць іншыя сведчанні, якія абяляюць Кушаля. Але ж і час цяпер іншы — многае стала даступным у архівах. А ў 60-я гады ў маіх руках былі толькі тыя дакументы, якія згадваюцца ў маіх публікацыях.

Цяпер возьмем Юрку Віцьбіча, пра якога я таксама пісаў. Але ж добра ведаю гэтага чалавека яшчэ па Віцебску, калі разам працавалі ў рэдакцыі. Запомніў назаўсёды, як рэдактар хваліў яго за савецкі патрыятызм. Віцьбіч напісаў артыкул пра салдат Чырвонай Арміі, якія загінулі пры вызваленні Заходняй Беларусі. Рэдактар сказаў нам на лятучцы: «Вот так надо писать, товарищи!» А ў вайну Віцьбіч раптам перакруціўся на ўсе 180 градусаў. У тым жа Віцебску, але ўжо ў фашысцкай газеце Юрка друкуе артыкул пра партызан — «Шакалы бродят по лесам», цешыцца з таго, што гітлераўцы нішчаць яўрэяў — «Жыды ў Віцебску».

Як я, афіцэр нашай арміі, які прайшоў усе дарогі вайны, дзе паміралі мае таварышы, вызваляючы Радзіму, як я, вярнуўшыся з фронта, мог глядзець на тое, што рабілі тут Кушаль, Віцьбіч? Якімі вачамі?..

Барыс Сачанка нядаўна напісаў, што Юрка Віцьбіч у вайну «актыўна ўключыўся ў супрацоўніцтва з новымі ўладамі... Часта выступаў у друку з артыкуламі асветніцкага характару». Наўрад ці аўтара «Шакалаў...» можна залічыць у асветнікі.

Уладзімір Клішэвіч падчас акупацыі пісаў вершы і разам з сябрамі-паэтамі выдаў у Слуцку кніжку. Але ж там ні ў адным радку няма «Хайль Гітлер». Там ёсць добрыя вершы. І Клішэвіча мы не «ачарнялі», хаця ён быў намеснікам бургамістра ў Слуцку.

Ці вось, скажам, Ганько. Ён нядаўна да нас прыязджаў. Ну, хай сабе едуць і Ганько і іншыя. Чалавек, як і рака, не можа быць адным і тым жа. Тады ён быў юнаком, цяпер — сівы дзед. Не можа быць, каб не паразумнеў чалавек. І ўсё-такі, калі я гляджу вось на гэты здымак, дзе Ганько атрымлівае з рук Кубэ ўзнагароду «За верную службу Германіі», у мяне ўзнікае прыкрае пачуццё.

Так што мяне не дакарае сумленне ні за Кушаля, ні за Віцьбіча, ні за Ганько. Я магу ім дараваць, што яны такія, але не магу забыць таго, кім яны былі ў вайну, нават калі мінула столькі гадоў. Разумею, што кожны з іх меў свой погляд на хаду падзей, на незалежнасць Беларусі. Ларыса Геніюш піша, што Кушаль — гэта найвялікшы патрыёт. Што ж, яна бачыць па-свойму Беларусь, і ў яе сваё азначэнне патрыятызму.

Я заўсёды спагадаў людзям, якія пасля вайны апынуліся на чужыне, бедавалі аб сваёй долі, наракалі, што не могуць убачыць Радзіму. Нават паліцэйскім спачуваў. Помню, атрымаў ліст з Аўстраліі. Беларус піша, што несправядліва так — абвінаваціць людзей ні за што і пазбавіць іх магчымасці нават наведаць родныя мясціны. Я з тым пісьмом паехаў у Гомель, прачытаў яго рабочым цвіковага завода, дзе да вайны рабіў той аўстралійскі беларус. А да мяне потым падыходзіць рабочы і гаворыць гэтак далікатна: «Ён усё добра піша, і скарга яго зразумелая, ды справа ўся ў тым, што той беларус начальнікам паліцыі быў. Нядобрую памяць па сабе пакінуў». Я даведаўся, што ўдалося, пра аўтара ліста і напісаў яму: спачуваю, але для вас дарога на Беларусь закрыта. Вось ваш брат можа смела прыехаць, а вас, калі з'явіцеся тут, будуць судзіць па закону. А брат яго таксама быў у паліцыі, але шкоды нікому не зрабіў — служыў проста вартаўніком.

Я спагадаў Масею Сяднёву, які адсядзеў ні за што ў сталінскіх лагерах. Разумею, што ў яго ляжала на сэрцы па выхадзе на волю. Але не разумею і не магу прыняць яго верша:

**Як звязаны ніцямі душы,**
**У лёце не гублялі яны згоды.**
**І крылы іх у сонечнай вышы**
**Гарэлі водбліскам маёй свабоды.**

Гэта — пра нямецкія самалёты, якія ляцелі бамбіць Мінск, нашы гарады. Калі ты патрыёт, калі ты бачыш, як руйнуецца дом і гінуць людзі, як можна радавацца асабістай свабодзе?..

— Быў час, калі душа гарэла ад нянавісці і пакут, калі гэтыя пачуцці падаграваліся доўгія гады «халоднай вайной», калі афіцыйная палітыка амаль што ўсю паваенную эміграцыю лічыла паліцэйскай, здрадніцкай. Але той час мінуў, і мы сталі не тыя, і погляды з-за мяжы на нас змяніліся. Астыў напал страсцей, і мы можам спакойна аналізаваць падзеі і ўчынкі людзей. Дык вось з пазіцый дня сённяшняга як вы ставіцеся да бебурнацаў? І наогул — да нацыяналізму? У вашай творчасці гэта праблема займае значнае месца.

— На маю думку, нацыянальны патрыятызм — станоўчая з'ява, паступовы рух. Але калі ён перарастае ў нацызм, то не можа ўхваляцца народамі. Бо гэта нешта азвярэлае. Прыклад таму — германскі нацыянал-сацыялізм. Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі ў Расіі адкрылі магчымасць нацыянальнага самавызначэння народаў. Але якім яно мае быць, погляды былі розныя: у бальшавікоў — свае, у дэмакратаў — свае. Гэта права кожнай палітычнай плыні і партыі. Стварэнне БНР ва ўмовах кайзераўскай акупацыі, напэўна, не было самым мудрым і справядлівым вырашэннем нацыянальнага пытання. Але праследаваць беларускую нацыянальную інтэлігенцыю не было ніякіх падстаў, і жорсткая расправа з ёю — трагічная несправядлівасць. З другога боку, ніхто не мае права забараняць народу выбіраць свой шлях — буржуазнай ці сацыялістычнай рэспублікі. Народ пайшоў за Саветамі, узняў чырвоны сцяг з сярпом і молатам — сімвалам яднання рабочых і сялян. Не лічу гэтыя сімвалы менш дастойнымі за «Пагоню» і бел-чырвона-белы сцяг. І ганьбаваць як тыя, так і другія — недастойна цывілізаванай нацыі.

Я рашуча супраць крайняга нацыяналізму. Калі глядзець з пазіцый рэлігіі, то Бог стварыў зямлю і чалавека. Але ніводнаму народу не сказаў: вось гэта тваё месца на Зямлі, тут і жыві. А народы ж качавалі з аднаго краю ў другі. Хто скажа, што першабытны чалавек, які з'явіўся над Рэйнам, быў немец, а той, што над Нёманам, — беларус...

Дзед мой па бацьку нарадзіўся недзе на Мазурах. Юнаком перабраўся ў Вільню, быў майстрам па рамонту храмаў. Ажаніўся з літоўкай. Хто мой бацька: паляк ці літовец? Дзед мой па маці, Антон Астроўскі, — паляк, бабка — беларуска. Хто маці мая: полька ці беларуска? Гаварылі ў сям'і і па-польску, і па-беларуску, пераважна па-беларуску. Жылі ў Полацку, потым у Віцебску. Дык я магу лічыць сябе і літоўцам, і палякам, і беларусам. Я па крыві, калі кроў дзеліцца па нацыянальных прыкметах, інтэрнацыяналіст. І ў маёй творчасці гэта адбілася — я за дружбу паміж рознымі нацыянальнасцямі.

А цяпер у нас людзі азвярэлі, дзеляць усё па нацыянальнай прыналежнасці, хаця нібыта і прызнаюць прыярытэт правоў чалавека.

— Памятаю, калі выйшаў першы том БелСЭ, прозвішча Прокшы часта, крывячыся ад раздражнення, паўтаралі ў высокіх цэкоўскіх кабінетах. За тое, што па вашай прапанове рэдакцыя БелСЭ ўключыла ў першы том напісаныя вамі артыкулы пра М. Абрамчыка і Р. Астроўскага. Навошта, маўляў, каб народ пра гэтых здраднікаў нешта знаў. Потым гэты том быў хуценька заменены іншым, дзе ўжо згадкі ні пра прэзідэнта БНР, ні пра прэзідэнта БЦР не было. Скажыце, навошта вам былі гэтыя непрыемнасці? Чым кіраваліся вы, калі пісалі ў энцыклапедыю пра Абрамчыка і Астроўскага?

— Толькі аб'ектыўнасцю, бо гэта мая пазіцыя. Пра Гітлера чамусьці можна пісаць, а пра Абрамчыка з Астроўскім нельга. Для адных яны ворагі, для другіх — барацьбіты за нацыянальную ідэю. Хай сабе нават ворагі, але ж яны былі, дзейнічалі, гэта постаці ў нашай гісторыі. Трэба, каб у энцыклапедыі былі даведкі не толькі пра іх, а пра ўсіх нацыянальных дзеячаў, нягледзячы на тое, па які бок класавых барыкад яны стаялі.

Памятаю, яшчэ на пачатку 60-х гадоў двое вучоных і я наважыліся напісаць кнігу пра дзейнасць бебурнацаў падчас вайны, пра БНР і БЦР і выдаць яе для шырокага кола чытачоў. І вось высокае начальства ў ЦК выслухала нашы прапановы і ўстрывожылася: «Товарищи! У меня есть дети, они знают, что у них есть Советская страна, Советское правительство. И вдруг они узнают, что там, где-то за рубежом, мы имеем еще два правительства! Что они подумают? Зачем издавать такую книжку?!»

Вядома ж, нашу ідэю «зарубілі».

— Відаць, не памылюся, сказаўшы, што прага аб'ектыўнасці, праўды кіравала Прокшам, калі ён выступіў з артыкулам у рэдагуемым ім тады «ЛіМе» ў абарону Васіля Быкава. Гэта быў першы артыкул у беларускай прэсе, у якім аўтар дамагаўся ад крытыкаў перагледзець свае адносіны да творчасці Васіля Быкава. Здаецца, пасля гэтага ў ЦК Прокшу назвалі «неуправляемым редактором»?

— Гэта быў першы артыкул не толькі ў беларускай, але і ва ўсёй савецкай прэсе. У «Литературной газете» ў Маскве ляжаў даўно падрыхтаваны да друку таксама станоўчы артыкул пра Быкава. З рэдакцыі пазванілі ў адпаведныя інстанцыі ў Мінск, а нашы сказалі: «Не следует давать! Придержите!» А пасля таго, як у «Литературной газете» атрымалі «ЛіМ» з маім артыкулам, вырашылі, што забарона адменена, усё ўзгоднена там, дзе трэба. І надрукавалі свой матэрыял. Вось тады мяне паклікалі ў ЦК і прыляпілі ярлык «неуправляемого редактора».

А было ўсё проста. Я панёс свой артыкул у ЦК, каб пераканаць іх, што трэба мяняць свае погляды на Быкава. Я ніколі нічога не ўзгадняў з цэкоўскім начальствам і на гэты раз панёс рукапіс не на «согласование», а каб знайсці там падтрымку. Але ў аддзеле культуры ЦК нават чытаць не сталі: «Брось ты с этим Быковым!..» Па ваеннай звычцы «браць камандаванне на сябе» я прыйшоў з высокага партыйнага дома і аддаў артыкул у набор. І сказаў на рэдакцыйнай лятучцы: «Больш мы ніякіх пагромных артыкулаў пра Быкава з іншых выданняў перадрукоўваць не будзем». А да гэтага перадрукоўвалі іншыя рэдактары «ЛіМа» ўсё, што загадвалі «зверху».

А ярлыкі хто толькі мне не чапляў. У «Сказе пра Лысую гару» «ЛіМ» «даехаў да Прокшы». «Беларускі голас», як толькі мяне прызначылі рэдактарам «ЛіМа», напісаў: «Жандар на чале літаратурнага воргану». Ну а ў партыйных вярхах я праславіўся як «неуправляемый». У арміі мне яшчэ на кожным кроку рабілі вымову за «послабление к подчиненным».

— Што вы думаеце пра наш час? Што адчуваеце, бачачы ўвесь вэрхал перабудовы, назіраючы за сацыяльнымі катаклізмамі ў краіне?

— Маё пакаленне будавала сацыялізм. Было многа добрага, але нямала і несправядлівага. Пра гэта было сказана ўпершыню Хрушчовым на XX з'ездзе КПСС, потым у гады перабудовы. Выходзіць так, што мы быццам і жыццё дарэмна пражылі. Ды нешта ж было ўсё-такі зроблена. Нельга гаварыць толькі пра заганнае — было бясплатнае лячэнне, навучанне ў школах і ВНУ, выходзілі беларускія кнігі і газеты. Выраслі цэлыя гарады, прамысловыя комплексы, курорты. Яшчэ ў 1928 годзе, памятаю, у Мінску была конка, а цяпер маем нават метро, якое не ў кожнай еўрапейскай сталіцы сустрэнеш.

Лех Валенса, які пахваляўся, што дзесяць гадоў руйнаваў камунізм, нядаўна заявіў, што ў Савецкім Саюзе паспяшаліся браць прыклад з Польшчы. Руйнаваць лёгка і патрэбна таму, хто рвецца да ўлады любой цаной. А што народ мае з гэтага? Неяк у Гродне мне давялося пачуць ад полькі, якая вярталася з Беларусі пасля пабыту ў сваякоў: «У вас вшыстко копейкі, копейкі. А ў нас вшыстко тысёнцэ, тысёнцэ...»

І вось мы дажылі да тых жа «тысёнцаў»... Не, што б там ні гаварылі, як ні чарнілі мінулае, але пакуль ёсць багатыя і бедныя, будзе існаваць ідэя сацыяльнай справядлівасці. А гэта ж — ідэя сацыялізму.

Наш сённяшні час можна параўнаць з ранняй вясной: то дождж, то снег, то замаразкі. Скажу радком Сяргея Грахоўскага: «Хоць горка, але трэба жыць». І, дадам, не губляць надзеі!

**Гутарку вёў**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

# ДУША АДТАЯЛА, АБАГРЭЛАСЯ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

### ІНФАРМАЦЫЯ І ЎРАЖАННІ

Ірэна Каляда-Смірноў — яркая, эфектная бландзінка. Па знешнім выглядзе цяжка вызначыць яе ўзрост. Дагледжаная. Прыгожа апранутая. Неяк нават і не верыцца, што яна родам з нашай вёскі, пакуль не загаворыць сакавітай, самабытнай вясковай мовай. Так, як размаўлялі ў яе хаце на Навагрудчыне. Імгненная рэканструкцыя часу дапамока нам у нейкай ступені зразумець сённяшні стан яе душы.

Ірэна ніколі не бачыла свайго бацьку. Той памёр за некалькі месяцаў да яе нараджэння ў жахлівым 1937-м. Маці засталася ўдавою ў 29 гадоў. А ў 1939-м прыйшлі Саветы і праз некаторы час пачалі шукаць сярод жыхароў Навагрудка «ворагаў». І нямала, трэба сказаць, адшукалі. Старэйшы брат Лёня, які быў захоплены беларушчынай, марыў атрымаць адукацыю і быць карысным для радзімы чалавекам. Падлеткам у час вайны ўступіў у Саюз беларускай моладзі. Маці таксама прысвяціла сябе беларускім справам. У 1944-м Ірэна разам з маці трапіла ў Нямеччыну, а брат, які застаўся на Беларусі, пазней быў асуджаны за ўдзел у Саюзе беларускай моладзі, адсядзеў некалькі год у турме. Пра яго лёс яны нічога не ведалі аж да канца 60-х. Пісаць баяліся, каб не наклікаць якой кары на знаёмых і родных. Рызыкнулі ўсё ж пазней падаць аб сабе вестку. Брат, на шчасце, аказаўся жывы. Але час тады не спрыяў іх сустрэчы. Беларусь немаведама за якія грахі адвярнулася ад сваіх грамадзян, як ад пракажоных. Трагедыя працягвалася.

### ЧАМУ ІРЭНА КОЖНЫ ДЗЕНЬ У ТЭАТРЫ!

Разважаючы над лёсамі беларусаў, якія ў выніку тых ці іншых прычын апынуліся за мяжой і там пражылі свой век, я кожны раз стаўлю сабе пытанне: што набылі і што страцілі гэтыя людзі на чужыне і што з-за таго страціла Беларусь? З аднаго боку, нашы суайчыннікі, апынуўшыся ў еўрапейскіх краінах ці Амерыцы, здолелі змабілізаваць усе свае сілы, каб упісацца ў іншае грамадства, дасягнуць пэўнага ўзроўню жыцця, які, здаецца нам вельмі высокім. Жывуць і, праўда, не блага. Маюць свае катэджы, аўтамабілі, могуць падарожнічаць па розных краінах. Ірэна Каляда-Смірноў, напрыклад, працавала ў офісе эканамістам. Хаця марыла зусім пра іншую кар'еру — артыстычную. Ад прыроды мела талент і нясцерпнае жаданне спяваць. Пасля гімназіі імя Янкі Купалы, якая дзейнічала ў Нямеччыне і якая паставіла яе на моцныя ногі беларушчыны, лёс звёў з Куліковічам і Равенскім. Брала ў іх урокі вакалу, спявала ў царкоўным хоры, выконвала партыі ў беларускіх спектаклях, што ставіліся сіламі эміграцыі. Але стаць прафесійнай спявачкай Ірэна не змагла, бо атрымаць адпаведную адукацыю ў Амерыцы, аказваецца, надзвычай складана. (Лішні доказ таму — наш Данчык). Тэатр, музыка і дасюль для Ірэны — жаданая казка, нерэалізаваная мара, радасць і натхненне. Нездарма ж, ледзь прыехаўшы, наша госця адправілася на оперны спектакль у тэатр. Званіць да Ірэны ўвечары стала бессэнсоўна, яна магла перамясціць любое мерапрыемства, толькі не тэатр.

Ну, дык што ж страціла Беларусь? Свае таленты, свае інтэлектуальныя сілы. Чужына не дала, на жаль, магчымасці рэалізавацца многім нашым суайчыннікам у мастацтве, у творчасці. І гэтыя духоўныя страты народ наш яшчэ доўга будзе адчуваць. Трагедыя мае свае вынікі.





З братам на магіле бацькі; разглядаюць сямейны альбом.



Перадача лекаў, прывезеных І. Каляда-Смірноў, дзіцячаму дому.

### З МАНАЛОГАЎ СУАЙЧЫННІЦЫ

— Моцна мяне ўсхвалявала паездка ў Навагрудак да брата. На кожную драбязу звяртала ўвагу, усё хацелася запомніць. Я ж маленькая была, калі мы з маці пакінулі свой дом. Дзіцячая памяць многае раманпызавала. Што мяне здзівіла: прыгожыя, моцныя людзі жывуць у беднасці, амаль у галечы, побыт вясковы такі ўбогі, аднак самі яны лічаць, што жывуць нармальна. Прыцярпеліся, змірыліся? Крыўдна за сваіх землякоў.

Там жа, у Навагрудку, як хадзілі ў мясцовы краязнаўчы музей, я нечакана ўбачыла сярод экспанатаў пас з такім самым арнаментам, што ткала мая бабуля. Мяне як кальнула ў сэрца: а можа гэта і ёсць яе пас?

— З кім толькі я на Беларусі ні сустракалася! Першае — гэта завезла лекі ў дзіцячы дом, падарункі. Цяпер тут усім цяжка, але дзецям найболей, мы ведаем, як хварэюць дзеці ад Чарнобыля, усяляк стараемся дапамагчы. Беларусы, якія жывуць у Клiўлендзе, ахвяравалі на гэту справу грошы, ды і амерыканцы не адмаўлялі. Будзем яшчэ старацца.

— Хадзілі з сябрамі па магазінах, глядзелі, што купляюць людзі... Увогуле жыць можна, калі маеш грошы, асабліва даляры. Але як гэта трэба выкручвацца тым, хто не мае даляраў, калі заробкі ў параўнанні з коштам тавараў проста мізэрныя...

— Некалькі разоў па справах я мела гутаркі з беларускімі парламентарыямі. І што вы сабе думаеце, я з імі — па-беларуску, а яны са мною — па-расейску. Ледзь тады стрымлівалася, каб не нагаварыць ім рэзкасцей. А напэўна ж, трэба было. І ў самалёце, як ляцела, то гутарыла з пасажырамі на сваёй мове. Дык тыя ўсё дзівіліся, быццам гэта нейкі фенаменальны выпадак, калі беларус размаўляе на беларускай мове. А ў Амерыцы кожны, якой бы нацыянальнасці ні быў, ганарыцца сваім, шануе яго, узвышае.

— Буду ўсім расказваць, як святкавалі мы ў Менску дзень 25 Сакавіка. Я слухала словы выступаючых пра волю і незалежнасць, пра гонар беларуса і ледзь не заплакала, калі пачула «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «Магутны Божа», якія выконвалі беларускія вайскоўцы. Напэўна ж, нешта перамянілася тут, калі ўжо спяваюць забароненыя раней «нацыяналістычныя» гімны.

Як мне здалося, нягледзячы на некаторы дыскамфорт, звязаны з бытавымі няўручнасцямі, стомленасцю ад паездак і сустрэч, Ірэна Каляда-Смірноў адчувала сябе ўсё ж такі няблага ў Беларусі. Мусіць, душа адтаяла, абагрэлася сярод сваіх людзей, на сваёй зямлі? Але перасцярогу яшчэ мела, не надта хацела расказваць пра сваіх родных, маўляў, як яно яшчэ тут павернецца. Але як бы яно ні павярнулася, а шляху назад няма. Таму не развітваемся назусім, а — да новай сустрэчы.

**Таццяна АНТОНАВА.**

**Фота В. СТАВЕРА.**



Экскурсія ў гісторыка-краязнаўчы музей Навагрудка.

# AN ONGOING DISASTER

**UNESCO, with the UN, has launched a multi-faceted aid plan for the victims of Chernobyl. Contributions are beginning to arrive.**

Five years have passed since Chernobyl. Unfolding world events have probably blurred the memories of the disaster. So why talk about a "Chernobyl Campaign" five years later?

Quite simply because the effects of the nuclear disaster, the worst civilian nuclear installation accident, are still being felts. But for how long at to what extent? The radioactivity of plutonium takes 25,000 years to diminish by half.

Scientists continue their research, groping in the dark as it were. Large areas remain contaminated but ordinary life is resuming wherever possible.

The UN has decided to mobilize resources in response to appeals for assistance by the governments of USSR, Russia, Belarus (former Byelorussia) and the Ukraine. A conference to evaluate needs was held in New York on September 20 after the setting up of an inter-agency task force. Some 15 specialized institutions, including UNESCO, the International Atomic Energy Agency, and the World Health Organization, are involved in the campaign.

### PROMISING RESULTS

UNESCO can play a significant role and has already appealed to the international community for contributions towards alleviating problems faced by victims of the disaster. These appeals have already produced promising results — 2,6 million dollars over three years, of which $ 600,000 have already been made available in kind. A third of the remaining two million dollars has been received, while another half is in firm commitments. The remaining 15% has been pledged. Not enough perhaps, but sufficient to set the process in motion.

Among the donors, the EEC, Canada and Germany have contributed some 1.3 million dollars. German humanitarian organizations account for another million.

In the summer of 1990, UNESCO enabled 1200 children from the region to spend their holidays abroad as the guests of youth movements in 15 European countries.

An estimated 800,000 children were affected by the disaster and many of them were relocated to less affected areas. A large number have been separated from their parents and obliged to live in special institutions.

Three children's centres, one each in Russia, Belarus and the Ukraine, are under construction and are scheduled to open in mid-1992. These are not children's homes but community-based centres where children between the ages of two and seven, with the help of psychologists and physiotherapists, can find some rehabilitation from the traumas they have experienced. The centres will also provide medical advice to pregnant women. "Given the dimensions of the problem, we hope this will have a snowball effect and incite the authorities to build more such centres", says Wolfgang Schwendler, head of this aspect of the UNESCO campaign.

Training is indispensable in a country where psychology as a subject has been long neglected. A lot needs to be done in the natural sciences as well. Scientists simply cannot "cope" with the size of the phenomenon and the plethora of unknown factors, points out Alice Aureli, another UNESCO staff member involved in the project: "We know a bit about the conditions for radioactive contamination of the atmosphere, for instance, but precious little about what happens in water".

An international seminar, to which some 50 world specialists have been invited, is planned for next September at UNESCO to examine the problem of nuclear contamination of water. The meeting will prepare the ground for another bigger international conference in three or four years in the former USSR. For its part, UNESCO's Intergovernmental Oceanographic Commission is working on a similar meeting to study the impact of the catastrophe on the Black Sea.

Scientists in the field also need help. Their equipment is largely obsolete, they remain isolated from the international community and despite their competence, their level of training is often inferior to that of their Western counterparts. UNESCO also plans to provide equipment to regional medical research laboratories and hospitals.

Foreign language courses are getting under way as part of another project to facilitate dialogue between local officials and foreign aid specialists and to enable Soviet scientists to read top scientific publications in English and other languages.

It is impossible to cite all the different kinds of assistance needed but a glimpse at the question of archives alone gives an idea of the staggering dimensions of what needs to be done.

All existing documents must be saved (but how will they be decontaminated?) and transferred elsewhere. On a more long-term basis, a database system for environment surveillance in all three republics must be set up.

Another project which is still in its fledgling stage concerns aid for the resettlement of displaced persons.

Seen as a whole, the programme may appear eclectic. "The human dimension forms the main axis" says co-ordinator Bruno Lefevre while, at the same time, emphasizing the role of the authorities in its conception.

UNESCO, in collaboration with other more technical agencies, Alice Aureli insists, is unique in that it has an ethical vision. In this" choir", she says, UNESCO can sing its own aria which goes something like "Don't sacrifice life when you make your choices".

**Nicolas MICHAUX**



STRONTIUM CONTAMINATION: THAT OF CESIUM AFFECTS A FAR GREATER AREA. THESE ELEMENTS REMAIN HIGHLY RADIOACTIVE FOR ABOUT 30 YEARS.



**Uncommon competition took place at the stadium "Dinamo" in Minsk. The owners of Afghan greyhounds and Russian borzoi wolfhaunds took their dogs to the stadium to determine the best one. The contest was held by the dog-breeding school "Ring" and association "Konversiya". It was an exciting and captivating show. Moreover, the most hot-tempered fans had a chance to stake on their pets.**

**Photo: V. TKACHUK.**

## MINSK IS CHOSEN FOR A NEM ROLE

MINSK, Belarus — This city, designated in December as seat of government of the new commonwealth, is a center of industry and the capital of Belarus, the smallest of the three Slavic republics of the ex-Soviet Union.

With a population exceeding 1,6 million, Minsk lies 140 miles from the Belarus-Russian border, and more than 400 miles south-west of Moscow.

The city, on the banks of the Svisloch River, has been inhabited for 900 years. The Arab traveler Abu Abdullah Mohammed noted it on a map he drew in 1154, when the city already was large and widely known.

Belarus bore the full force of the Nazi invasion 50 years ago, and Minsk was largely destroyed.

The postwar Soviet authorities rebuilt the city with wide avenues, parks and river embankments, sacrificing much of its historic character in the interests of symmetry and open space.

Although Minsk is designated as the administrative capital, it seemed unlikely that the focus of diplomatic and governmental activity would shift from Moscow, the historic capital of Russia and the heart of the Soviet Union.

### CHAIN REACTION

Production at the Belarus Motor Works BelAZ has stopped and 10,000 of its workers have been laid off. It looks like politics and the economy are incompatible. Bobruisk in Belarus supplies no tyres and Chelyabinsk in Russia no hubs. As a result, 500 mammoth BelAZ trucks are non-operational.

The problem affects everybody: free prices spell the freedom to be poor. There is no money to settle mutual accounts. BelAZ has 1.3 billion roubles' worth of ready products and 200 million roubles of debts. Consumers have no money either.

## *COMMONWEALTH CHIEFS ACT TO QUIET ARMY ROW*

MINSK, Belarus — Although four Soviet republics say they will form separate armies, the disagreement on defense issues will not destroy the new commonwealth, said Stanislav Shushkevich at a news conference a day after the summit of leaders of the Commonwealth of Independent States, during which several cooperation agreements were signed.

The agreements by the 11 former Soviet republics signaled a determination to settle their disputes within the body.

"We understand that the commonwealth is a structure we can't live without," said Shushkevich." We found that the illnesses in the states of the commonwealth are the same, and we must unite to treat them. This unity will allow us to resolve these problems, especially the economic problems."

He said four republics — Ukraine, Moldova, Azerbaijan and Belarus — were clearly not interested in joining in a unified army.

Shushkevich said, however, the four states now were effectively part of a unified millitary because they don't have their own forces.

"But, we are saying that at some point the process of reorganization of the armed forces must begin," Shushkevich said.

He said the process had already begun in Belarus and would take about two years.

Wrangling over military issues has preoccupied the commonwealth since its birth from the disintegrated Soviet Union. Disputes between its biggest members, Russia and Ukraine, have overshadowed other pressing issues such as the coordination of economic reform.

The presidents of Russia and Ukraine had a "wonderful meeting" after the summit and reached a bilateral economic agreement, Shushkevich told reporters. He declined to disclose the contents of the agreement.

Asked about rumors that Russia's Boris N. Yeltsin had been inebriated after the meeting, Shushkevich said, "Boris Nikolayavich was completely sober, and in as serious a mood as I was.

The division over a unified military appeared to assure that Russia would proceed to form its own army as it has threatened. Russian officials said earlier in the week that Yeltsin may sign a decree creating a Russian force if a unified one was rejected.

The dispute over the 3,7 million-member former Soviet forces was confined to conventional weapons. Leaders reaffirmed their commitment to joint control over 27,000 nuclear warheads, most of which are based in Russia, Ukraine, Belarus and Kazakhstan.

Shushkevich said the four nuclear states have established special "hot lines" to consult in the event of a crisis. He said all conversations would be recorded and could not be destroyed.

Eight states appointed a working group to work out a temporary "unified command" over conventional forces, said a spokesman

Editor of the English page T. BONDARENKO.

*З ПОПЕЛУ НЕБЫЦЦЯ*

# ЦЯРНІСТЫ ШЛЯХ МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА

Баюся я ўжо — на зямлі зусім
зьвядуцца песьняры і гордыя музыкі.
Ды што я гавару — чужога места.
завулкі-вуліцы й мяне забудуць,
дармо, што я хадзіў па іх задумны
і натхненны.

*М. СЯДНЕЎ «Сьмерць музыкі».*

ЁСЦЬ прапанова, каб гімн-малітва «Магутны Божа» Міколы Равенскага на словы Наталлі Арсеньевай стаў дзяржаўным гімнам незалежнай Беларусі. Гэты прыгожы і ўзнёслы твор сёння можна пачуць у выкананні хору Беларускага тэлебачання і радыё пад кіраўніцтвам Віктара Роўды, усё часцей і гучней співаецца ён на нацыянальных урачыстасцях. Аднак імя Міколы Равенскага, выдатнага кампазітара і збіральніка народных песень, пакуль застаецца невядомым народу, вымаўляецца напаўголаса і неяк сарамліва. Нават дачка кампазітара Вольга Аляксеенка (Равенская), артыстка вышэйназванага хору, да апошняга часу не ведала, што гімн «Магутны Божа» напісаў яе бацька.

Пра тое, як і калі быў напісаны гэты твор, на старонках нью-йоркскага «Беларуса» ўспамінае Зора Кіпель. Пасля вайны ў нямецкім гарадку Остэргофэне знаходзіўся беларускі лагер для перамешчаных асоб. Бацькі З. Кіпель жылі ў адной кватэры з кампазітарам Міколам Равенскім і часта чулі, як ён сачыняе, «пілікае» на сваёй неразлучнай скрыпачцы.

Аўтарка зазначае, што аднойчы маці сказала: «Нешта ж надта прыгожае піша спадар Равенскі». Гэта «нешта прыгожае» вылілася ў нешта магутнае — у гімн-малітву «Магутны Божа». Равенскі працаваў над музыкай на працягу вясны — лета 1947 года.

«Магутны Божа» стварaўся па загаду сэрца, у душы кампазітара гучала мелодыя пакінутай Бацькаўшчыны, якой ён як сапраўдны хрысціянін жадаў спору ў працы, веры ў праўду, урадлівасці яе жытнёвым нівам, свабоды і шчасця ёй самой і яе народу. Увосень 1947 года гімн «Магутны Божа» быў выдрукаваны ў Парыжы. Упершыню прагучаў у Остэргофэне на беларускай каталіцкай службе ў нямецкім касцёле, «калі прысутныя беларусы, як католікі, гэтак і праваслаўныя, у дружным хоры ўзнеслі свае малітвы».



Мікола РАВЕНСКІ з жонкай Янінай Станіславаўнай і дачкой ад першага шлюбу Ленай (стаіць).

(Фота з архіва Л. КАШЫЧКІНАЙ).

Сёння мы з зацікаўленасцю і надзеяй звяртаемся да свайго мінулага. Абставіны дазваляюць, і мы маем магчымасць і ахвоту аддаць кожнаму па заслугах, абавязаны ўспомніць кожнага, хто не зганьбіў у душы светлае імя Радзімы.

«Усякаму свой час, і час усякай рэчы пад небам,— сказана ў Бібліі.— ...час разбураць, і час будаваць; ...час раскідваць камяні, і час збіраць камяні; ...час маўчаць, і час гаварыць; ...час любіць, і час ненавідзець...» Надышоў час гаварыць, і «суд над усякай справай ТАМ».

ІМЯ МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА я ўпершыню пачула гадоў 15 назад. Тады ў «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы» выйшла мая невялікая кніжачка «Люблю» пра жыццё і творчы шлях старэйшай нашай паэткі Канстанцыі Буйло. У кніжцы асаблівая ўвага была нададзена шырока вядомай песні «Люблю наш край», якую ведаюць і спяваюць, бадай, у кожнай нашай вёсцы, якая даўно стала неафіцыйным беларускім гімнам, яе пяюць, сумуючы па Бацькаўшчыне, суайчыннікі і ў Амерыцы, і ў Аргенціне, і на Беласточчыне.

Паколькі выданні «Голасу Радзімы» ішлі тады ў асноўным за мяжу, то не дзіўна, што рэцэнзія на «Люблю» з'явілася ў Амерыцы. Праца ўвогуле ацэньвалася станоўча, але крытыкавалася за тое, што песня «Люблю наш край» называлася народнай, у той час як «у музыкі ёсць аўтар— беларускі кампазітар Мікола Равенскі, які па апошняй вайне стаўся палітычным эмігрантам».

У 1922 годзе ў Мінску Беларускім кааперацыйна-выдавецкім таварыствам «Адраджэнне» , гаварылася ў рэцэнзіі, быў выдадзены зборнік песняў М. Равенскага, дзе пад № 25 змешчана «Люблю наш край» на словы К. Буйло.

У маім журналісцкім блакноце захаваўся запіс ад 21 кастрычніка 1982 года. У той дзень я слухала лекцыю Генадзя Цітовіча аб народнай музыцы. Успомніў ён і песню «Люблю наш край», сказаўшы, што Р. Шырма запісваў яе двойчы, запісваў яе і сам Генадзь Іванавіч. Ён назваў песню цудоўнай, своеасаблівым гімнам. Пасля лекцыі я падышла да Г. Цітовіча і спытала, ці магло так стацца, што музыку на вершы К. Буйло напісаў кампазітар М. Равенскі. Адказ быў адмоўны. «У Равенскага ў зборніку ніколі не было такой песні,— сказаў Г. Цітовіч.— І наогул пра яго лепш не згадваць».

Пра тое, што верш «Люблю наш край» стаў песняй, К. Буйло даведалася толькі пасля вайны, калі пачула яе ў выкананні харавой капэлы пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Песня была аб'яўлена як народная ў апрацоўцы Анатоля Багатырова. Выпушчана была і пласцінка фірмы «Мелодия».

Атрымаўшы ад мяне копію рэцэнзіі на кніжку «Люблю», Канстанцыя Антонаўна адрэагавала своеасабліва. Яна пісала: «Здзівіла мяне крыўда за Міколу Равенскага. Я асабіста ганаруся, калі сустракаю верш «Люблю наш край» без указання аўтара, а з гордай назвай «народная песня». Няма вышэйшай адзнакі, няма лепшага вызначэння. І калі любіш сваю Радзіму, свой народ — які вялікі гонар: твая сціплая праца прынята народам як каштоўнасць, прынята ў народнае сэрца, народную памяць».

Думаю, што і Мікола Равенскі не пакрыўдзіўся б на тое, што яго песню лічаць народнай. Яна палюбілася людзям, вытрымала выпрабаванне часам і застанецца з народам навечна. Сёння ў розных вёсках яе выконваюць па-свойму, з'явіліся розныя апрацоўкі для прафесійных калектываў, але першапачатковае жыццё даў ёй М. Равенскі. Засведчыў гэты факт і А. Багатыроў, які сказаў, што песня напісана М. Равенскім. «Люблю наш край»— дзядзькава песня, — пацвердзіла пляменніца кампазітара Ніна Рэвінская, актрыса Беларускага тэатра музкамедыі. — Мама яе да вайны спявала. Яна ўсе песні дзядзькі Міколы пела. А пасля вайны парадаксальныя рэчы пачалі адбывацца. Мама па радыё пачуе песню і ўсклікне: «Ой, дык гэта ж Міколава песня». І заспявае іншыя словы на гэту мелодыю».



Вольга АЛЯКСЕЕНКА (РАВЕНСКАЯ), дачка кампазітара.

Ад іншых сваякоў М. Равенскага я таксама пачула, што сёй-той з кампазітараў, якія да вайны сябравалі з Міколам Якаўлевічам, пакарысталіся яго музыкай, мусіць спадзеючыся на тое, што і імя яго, і творчасць асуджаны на вечнае забыццё на Радзіме.

Некалькі гадоў назад вядомы беларусіст з Вялікабрытаніі Гай Пікарда прыслаў у рэдакцыю «Голасу Радзімы» ксеракопію тытула зборніка песень М. Равенскага (год выдання 1922), ноты некалькіх песень з яго і лісток са зместам. Сапраўды, пад № 25 змешчана «Люблю наш край» на словы К. Буйло. На дарэвалюцыйныя вершы паэткі кампазітар напісаў яшчэ дзве песні: «Я шукала» і «Каб я мела». Апошняя, як і «Люблю наш край», была вельмі папулярнай у Заходняй Беларусі да 1939 года. Пісьменніца Ніна Тарас, якая вучылася ў Навагрудскай гімназіі, успамінала, што гэтыя песні яны абавязкова ўключалі ў канцэрты, з якімі выступалі на гімназічных вечарах, перад сялянамі ў вёсках. Да апошняга часу і Ніна Міхайлаўна лічыла, што «Люблю наш край»— песня народная, а музыка «Каб я мела» належыць Антону Валынчыку, які кіраваў тады вучнёўскім хорам.

Адшукаць зборнік Міколы Равенскага ў Ленінскай бібліятэцы ў Мінску, дзе ён знаходзіўся ад 1922 года, сталася немагчымым. Вольга Мікалаеўна, дачка кампазітара, не так даўно пабывала там. У каталогу зборнік ёсць, хаця чамусьці без шыфра, сама ж кніжка знікла. Бібліятэчныя работнікі развялі рукамі; «Не знішчалі, не канфіскоўвалі». Прызнаюся, падумалася, што і сапраўды можа нехта быў моцна зацікаўлены ў тым, каб імя і музыка кампазітара засталіся невядомымі нашчадкам, але ўжо не па палітычных матывах.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

(Працяг будзе).

# «ПУШКІН ЗЬ ВІЦЕБСКУ»—У МЕНСКУ

Год назад Алесь Пушкін ладзіў у горадзе над Дзвіною выставу пад назовам «Пушкін у Віцебску». А сёлета, 25 сакавіка, у Дзень незалежнасці Беларусі, ён адкрыў выставу ў менскім Доме літаратара — «Пушкін зь Віцебску». На адкрыцці мела месца тэатралізаванае дзейства (перфомэнс).

У ім бралі ўдзел сам мастак, апрануты ў адмысловую світку і капялюш з пяром, чорны раяль, аголеная мадэлька і жывы певень. Падчас перфомэнса гучала музыка і вершы, гарэлі бенгальскія агні. Адным словам, мастак ужо каторы раз пераконвае гледачоў, што Дзень незалежнасці — гэта неабавязкова «свята са слязамі на вачах», ёсць у жыцці месца радасці.

Колькі слоў пра саму выставу. Часткова яна складаецца з твораў, ужо экспанаваных. Скажам, у Віцебску была інсталяцыя-дыпціх «Адзенне Беларусі народнай» і «Адзенне Беларусі сацыялістычнай». Першая частка — народны строй з музея, другая — пудзіла «калгасніка». Цяпер гэта — трыпціх, дыпціх дапоўнены голым манекенам жаночага полу, дэкарыраваным аплікацыямі ў выглядзе грашовай купюры (50 рублёў) і талонаў на харчаванне — «Адзенне Беларусі сучаснай».

Жывапісныя работы Пушкіна з ліку новых, створаных за год, што прайшоў з часу выставы ў Віцебску, і нідзе дагэтуль не экспанаваных, — у большасці ўспрымаюцца як эскізы (і такімі фактычна з'яўляюцца) будучых грунтоўных твораў. Відаць, час мастаку пераасэнсаваць сёетое са свайго творчага вопыту і не распыляцца на драбязу. Тым болей, што А. Пушкін мае высокую рамантычную мару — зрабіць роспісы і вітражы ў Полацкай Сафіі.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

# ЦІХАЕ ВЯРТАННЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

змагарамі з таталітарнай сістэмай. Гэтыя шпарка набіраюць, як цяпер кажуць, ачкі, паспяхова лезуць угару. Дзіўна, ніхто, здаецца, пакуль нават не заікнуўся, што пераважная большасць нашых шматлікіх дактароў і кандыдатаў гістарычных навук — зусім не вучоныя, а беспрынцыповыя пустазвонныя прыстасаванцы. Заўжды няўхільна выконваючы ідэалагічныя ўстаноўкі кіруючай партыі, яны свядома зрабілі сваёй паўсядзённай прафесіяй фальсіфікацыю мінулага нашай зямлі. Чакаць нейкіх станоўчых зрухаў ад іх наіўна, бо, як ні круці, а, прабачце, у нячысціка анёльскія крылы ўсё роўна ніколі не вырастуць.

Праўда, і цяпер, і даўней сярод беларускіх гісторыкаў сустракаліся таленавітыя, высакародныя людзі, якія верылі: не зважаючы ні на што, жывая мінуўшчына Бацькаўшчыны заваладае ўрэшце сэрцамі, думкамі, розумам мільёнаў землякоў - суайчыннікаў. Яны верылі, што скарбы нашай гісторыі дапамогуць русіфікаванай масе насельніцтва спасцігнуць уласную годнасць, каб «людзьмі звацца», каб, «заняўшы пачэсны пасад між народамі», зноў вярнуцца ў Еўропу. Удакладнім: не сядзелі яны ў бяздзеянні склаўшы роспачна рукі, а, галоўнае, цалкам прысвячалі сябе самаахвярнаму служэнню гэтай велічнай, святой справе. Да ліку такіх цудоўных людзей можна па праву аднесці беларускага гісторыка Усевалада Ігнатоўскага (1881—1931).

Характарызуючы творчую спадчыну У. Ігнатоўскага, а гэта больш за 30 грунтоўных навуковых гістарычных прац, напісаных працягам 20-х гадоў, трэба ўлічваць, што іх аўтар— гадаванец Санкт-Пецярбургскага і Юр'еўскага універсітэтаў, былы выкладчык прыватнай гімназіі ў Вільні і настаўніцкага інстытута ў Мінску, які яшчэ з першай расійскай рэвалюцыі звязаў свой лёс з барацьбой супраць царызму. Ён нічым не паходзіў на класічных кабінетных вучоных. Перад намі — змагар, барацьбіт, фактычны натхніцель, арганізатар палітыкі рэальнай беларусізацыі, ужо першыя крокі якой прынеслі столькі плёну на ніве нацыянальнага адраджэння. У 20-х гадах Ігнатоўскі заўжды знаходзіўся ў самай гушчыні няпростых падзей. Гэта быў вядомы грамадскі і дзяржаўны дзеяч нашай рэспублікі, абцяжараны бясконцымі абавязкамі. Тым не менш ён знаходзіў час, каб пісаць. І як пісаць! Нават каб Ігнатоўскі-гісторык спакойна працаваў дзесьці ў кабінетнай цішы, каб стварыў толькі сваю галоўную працу «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі», то і ў такім выпадку ягонае прозвішча ўсё роўна назаўжды засталося б у пантэоне нацыянальных славутасцей. Хоць творы гісторыка больш за палавіну стагоддзя праляжалі «арыштаванымі» ў цемры сутарэнняў спецсховаў, хоць да аўтара надоўга прычапілі ганебныя ярлыкі «нацдэма» і «ворага народа», жыццё яшчэ раз пераканаўча засведчыла: напісанае — застаецца!, а праўду нікому не забіць, не схаваць.

У некаторых артыкулах апошняга часу, прысвечаных У. Ігнатоўскаму, роля гэтай выдатнай асобы ў развіцці айчыннай гістарычнай навукі чамусьці асветлена далёка не поўнасцю. Разглядаючы, у прыватнасці, «Кароткі нарыс...», сям-там даследчыкі неаднаразова падкрэслівалі спрошчанасць, нават «прымітыўнасць і нелагічнасць» асобных месцаў у нарысе, адносячы гэта да паспешлівага тлумачэння аўтарам гістарычных падзей, выкліканага сацыяльным заказам. Нічога не зробіш, такія і іншыя хібы ў «Кароткім нарысе...» сям-там сустракаюцца. Але парадаксальна, што абсалютна не заўважаным засталося галоўнае— канцэптуальна новы падыход У. Ігнатоўскага да нашай нацыянальнай гісторыі. Маецца на ўвазе празорлівы, праз сівыя стагоддзі ўстойлівы погляд аўтара нарыса на беларусаў, як на **здавён дзяржаўны народ.** Гэтай заслугі ў гісторыка нікому не адабраць. Як, зрэшты, не закрэсліць і таго феномена, што нарыс, напісаны, нагадаем, яшчэ ў 20-х гадах, і сёння з поспехам можа ды й павінен стаць першай часткай школьнага падручніка па роднай гісторыі.

Прынцыповы светапоглядны падыход У. Ігнатоўскага да беларускай гісторыі добра бачны ўжо нават у адным пераліку некалькіх параграфаў «Кароткага нарыса...». Мяркуйце самі: «Старажытныя насельнікі Беларусі; Дзяржаўна-палітычны лад; Змаганьне Полаччыны з Кіеўшчынай; Усяслаў Полацкі; Полаччына пасьля Усяслава; Хрысціянства і асьвета; Гандаль і соцыяльны склад грамадзянства; Літвіны; Аб'яднаньне Літвы; Будаваньне Літоўска - Беларускай дзяржавы ў XII ст. (алеццях)»*. А цяпер прапануем для параўнання адпаведныя параграфы сумна вядомага школьнага падручніка «История БССР» (аўтары Л. Абэцэдарскі, М. Баранава, Н. Паўлава), па якім, на жаль, вучыліся пасляваенныя пакаленні жыхароў нашай рэспублікі: «Усходнеславянскія плямёны на тэрыторыі БССР; Заходнія землі Русі ў складзе старажытнарускай дзяржавы; Феадальная раздробленасць заходніх земляў Русі; Культура заходніх земляў Русі ў IX—XIII ст. (агоддзях)». Калі ў другім выпадку гаворка ідзе толькі аб «заходніх землях Русі», то ў першым асноўная ўвага У. Ігнатоўскага слушна сканцэнтравана на самастойным Полацкім княстве — калысцы беларускай дзяржаўнасці. Адчуваеце розніцу?!

Нельга не адзначыць, што аўтар «Кароткага нарыса...» распрацаваў простую, але абгрунтаваную і ўсебакова ўзважаную навуковую перыядызацыю гісторыі Беларусі. Яна ўключае ў сябе пяць перыядаў: Полацкі, Літоўска-Беларускі (Беларусь у складзе Вялікага княства Літоўскага), Польскі (Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай), Расійскі і «Беларусь пасьля зьвяржэньня царызму». Можна, вядома, спрачацца наконт асобных палажэнняў і думак аўтара. Так, напрыклад, У. Ігнатоўскі лічыў, што пасля Люблінскай уніі 1569 года Вялікае княства Літоўскае, трапіўшы ў склад Рэчы Паспалітай, дзе дамінантай было ўсё польскае, у значнай ступені страціла сваю суверэннасць. Таму гэты гістарычны перыяд ён і назваў «польскім». Але несумненна, што ў агульным плане перыядызацыя беларускай гісторыі, распрацаваная ў свой час Ігнатоўскім, куды лепшая за цяпер афіцыйна прынятую, якая апроч значных тэарэтычных пралікаў вельмі груваcткая і нязграбная, яе школьніку складана і цяжка засвоіць.

А якой цудоўнай мовай напісаны «Кароткі нарыс...»! Гэта ж паэтызаваны, высокі стыль, амаль, калі хочаце, верш у прозе. Колькі тут меласу, колькі любові, колькі замілаванасці непаўторным мінулым роднай зямлі, хоць жыццё на ёй (аўтар нічога не прыхарошваў) ніколі не было раем. Вось у каго трэба вучыцца пісаць...

Адносна нядаўна ў друку з'явілася паведамленне, што рыхтуецца новы падручнік па гісторыі Беларусі для школ. Аўтар гэтых радкоў выказвае сумненні, што новы падручнік стане лепшым за «Кароткі нарыс...» У. Ігнатоўскага. Ды і не зразумела, навошта, зрэшты, вынаходзіць вынайдзенае? Вядома, для сённяшняга выкарыстання «Кароткага нарыса...» ў якасці школьнага падручніка спатрэбіцца пэўная дапрацоўка. Але з такой работай справіцца самастойна любы досыць дасведчаны і кваліфікаваны рэдактар. Ратуй, божухна, калі за рэдагаванне возьмецца хтосьці з супрацоўнікаў АН Беларусі ці нехта з тытулаваных выкладчыкаў мінскіх ВНУ: непазбежна застануцца адны рожкі ды ножкі. Калі ж сур'ёзна, то трэба знайсці мужнасць і сказаць праўду: гэтыя людзі, якія дзесяцігоддзямі альбо зусім не рабілі ў навуцы нічога, альбо перакручвалі нашу гісторыю, як толькі маглі, зараз ані не здатныя ўзняцца да вяршынь светапогляднай гістарычнай канцэпцыі У. Ігнатоўскага. Як ім сёння хоць бы асцярожна сяк-так падтрымаць тое, супраць чаго ўсіх іх гэтак доўга і зацята нацкоўвала «честь и совесть нашей эпохи»?

З цяперашнім перавыданнем «Кароткага нарыса...» супала з'яўленне невялікай кніжкі «Усевалад Ігнатоўскі і яго час», выпушчанай у серыі «Бібліятэчкі газеты «Голас Радзімы». Аўтары І. Ігнаценка і А. Кароль. Прыемна, што вяртанне асноўнага твора У. Ігнатоўскага ў даным выпадку суправоджана спробай аўтараў гэтай кніжкі з пункту гледжання дня сённяшняга творча асэнсаваць постаць выдатнага беларускага гісторыка на фоне рэалій 30-х гадоў. Кніжка напісана даходліва і займальна, упершыню тут уводзіцца ва ўжытак шмат фcésталогіі з раней недаступных сакрэтных архіваў КДБ, КПБ. Яе з задавальненнем прачытаюць не толькі за межамі Бацькаўшчыны, а і на радзіме. Праўда, рэкамендаваць гэтую кніжку для выпуску ў рэспубліцы масавым тыражом можна толькі з важкімі агаворкамі. У прыватнасці, у кнізе ніводнага слова не сказана, што трагедыя У. Ігнатоўскага найперш у тым, што ён паверыў бальшавікам, чыя стратэгія была несумяшчальнай з ідэямі сапраўднага суверэннага развіцця раней прыгнечаных народаў былой Расійскай імперыі. Са зместу асобных кніжных абзацаў праглядаецца чарговая спроба абяліць і партыю, і сталінізм, спісаўшы безліч бязвінных ахвяр, у тым ліку і загублены лёс У. Ігнатоўскага, толькі на Сталіна і бліжэйшых яго памагатых. Няўмольным жа катам была сама сістэма, заснаваная на антычалавечнай ідэалогіі бальшавізму. У канцы кніжкі задаволена канстатуецца: «У 1990 годзе У. Ігнатоўскі рашэннем ЦК КПБ адноўлены (пасмяротна) ў партыі». Відаць, для аўтараў (ці аднаго з іх) воля ЦК КПБ — па-ранейшаму вышэйшы аўтарытэт і непахісная ісціна. Ні слова ў кнізе таксама пра тое, што У. Ігнатоўскі, як і мільёны іншых лепшых сыноў Айчыны, зрабіўся трагічнай ахвярай злачыннай палітыкі той самай партыі, на якой грунтаваўся падмурак так званай сацыялістычнай сістэмы.

Прысвечаная У. Ігнатоўскаму кніжка завяршаецца наступным мажорным сказам: «Вяртаецца, вярнуўся з палону праклёнаў і нябыту Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі». Хочацца назваць больш стрымана сённяшняе вяртанне гісторыка — «ціхім», бо пакуль «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» зноў не стане масавым школьным падручнікам роднай гісторыі, гаварыць аб шырокім вяртанні зарана.

**Мар'ян ВІЖ.**

* Тут і далей захаваны правапіс «Кароткага нарыса...».

## ВУЧОБА Ў РАДАСЦЬ



**Для многіх дзяцей, што жывуць у мікрараёне Уручча, вучоба перастала быць «пакараннем», як бывала раней у агульнаадукацыйнай школе. З захапленнем, цікава праходзяць заняткі ў гуманітарнай школе-гімназіі № 195. У аснову праграм і методык гэтай навучальнай установы Мінска пакладзены формы навучання, прынятыя ў старой класічнай гімназіі. Поруч з агульнаадукацыйнымі прадметамі тут абавязкова вывучаюць нарадазнаўства, этнаграфію, гісторыю мастацтваў, філасофіі і навукі, этыкет, рыторыку, логіку. Асаблівая ўвага ўдзяляецца замежным мовам. Іх пачынаюць выкладаць з першага класа, да звыклых дабаўлены латынь, польская.**

**Педагогі гімназіі, прынятыя на працу на конкурснай аснове, імкнуцца ўбачыць у кожным выхаванцы яго індывідуальныя здольнасці і інтарэсы. Тут радуюцца раскрытым талентам. Творчасці школьнікаў садзейнічаюць урокі, якія праходзяць нетрадыцыйна, у форме дыспутаў, конкурсаў, маленькіх спектакляў, разыграных вучнямі.**
**Такія заняткі і дзецям, і настаўнікам прыносяць задавальненне і радасць.**

**НА ЗДЫМКАХ: роспіс сцен у кабінеце беларускай культуры выконваюць адзінаццацікласніцы Таццяна ДАМІНІКОЎСКАЯ (злева) і Святлана РАДЗІОНАВА; выкладчык англійскай мовы Святлана ПАНОВА разам з пяцікласнікамі рыхтуе спектакль на англійскай мове, які пакажуць на ўроку.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**



## ВОСЬ ТАКІ ПРЫКЛАД

У будынку краязнаўчага музея ў Рэчыцы прайшоў незвычайны аўкцыён, які разам з музеем арганізавала малое прадпрыемства «Тэлевід». Прадаваліся, вядома, не музейныя экспанаты. Аўкцыён быў выключна дабрачынны: 12 рэчыцкіх мастакоў бясплатна перадалі для яго свае жывапісныя і графічныя работы. Выручаныя сродкі будуць поўнасцю накіраваны нядзельнай школе, якая дзейнічае пры Свята-Успенскай царкве.

Парадоксы нашага жыцця: жабрацкая культура ў адрозненне ад нуворышаў ад эканомікі ўхітраецца дапамагаць яшчэ бяднейшым.

# ВІЗІТ САМАРАНЧА Ў МІНСК

6 красавіка на асабістым самалёце ў Мінск прыбыў Прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта Хуан Антоніо Самаранч. Ён правёў сустрэчы з кіраўнікамі Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічам і В. Кебічам, гутарыў з членамі НАК Рэспублікі Беларусь, наведаў Палац спорту і інстытут фізкультуры.

Гэты візіт па рэспубліках былога Саюза даволі працяглы (Талін, Рыга, Вільнюс, Мінск, Кішынёў, Масква), таму ўсе гутаркі насілі дзелавы і афіцыйны характар.

В. Кебіч зазначыў, што прыезд высокага госця ўспрымае, як яго вялікую павагу да Беларусі, яе народа, спартсменаў. «Мы перажываем цяжкія часы, — сказаў Вячаслаў Францавіч, — аднак, нягледзячы на гэта, зробім усё, каб прыняць актыўны ўдзел у сусветным спартыўным руху, дастойна выступіць на чэмпіянатах свету, Алімпійскіх гульнях, іншых буйных спаборніцтвах.

Вітаючы Х. А. Самаранча, С. Шушкевіч прыгадаў крызісныя сітуацыі 1980—1984 гадоў, той час, калі дзякуючы асабістым намаганням Прэзідэнта МАК удалося вырашыць усе цяжкасці на шляху да ўмацавання алімпійскіх ідэалаў і прынцыпаў сусветнай садружнасці спартсменаў усіх кантынентаў.

«Гэты перыяд, думаецца мне, прайшоў беззваротна,— сказаў кіраўнік Вярхоўнага Савета Беларусі. — Рэспубліка праводзіць адкрытую палітыку па ўсіх без выключэння напрамках шматграннага жыцця і дзейнасці, у тым ліку і ў пытаннях спорту... Не будзем утойваць: мы марым і з нецярпеннем чакаем таго часу, калі наша алімпійская зборная будзе выступаць пад беларускім флагам...».

І такі час ужо недалёкі. Аб гэтым гаварыў і Х. А. Самаранч. У адказ на прамову С. Шушкевіча Прэзідэнт запэўніў, што МАК акажа Беларусі пасільную дапамогу —і матэрыяльную, і маральную. Падкрэсліў, што Рэспубліка Беларусь заняла правільную пазіцыю ў пытанні аб удзеле яе спартсменаў у Гульнях у Барселоне ў складзе аб'яднанай каманды СНД, бо іншага выйсця не было: у Алімпійскай вёсцы арганізатарамі Гульняў усё даўно разлічана і размеркавана... А ўжо на зімовай Алімпіядзе 1994 года ў нарвежскім горадзе Ліліхамеры Беларусь зможа выступіць самастойнай камандай.

Прэзідэнт МАК ведае асабіста многіх нашых спартсменаў і трэнераў. І, вядома, не мог не сустрэцца з імі. Заслужаныя майстры спорту М. Іткіна, У. Парфяновіч, А. Бялова, заслужаныя трэнеры В. Наважылаў, У. Навумаў і іншыя цікавіліся ў Х. А. Самаранча будучыняй алімпійскага руху, узнялі праблемы аказання дапамогі тым спартсменам, якія скончылі свае выступленні.

Журналісты пацікавіліся ў Прэзідэнта, як ацэньвае ён свой візіт у Беларусь. На што быў прыкладна такі адказ: «Мяне ў Мінску зразумелі. Гэта самае важнае. Я веру, што алімпійскі рух у Беларусі набудзе шырокі размах. Са свайго боку, я зраблю ўсё, каб падтрымаць яго».

Грамадскасць, спартыўная прэса ацэньваюць візіт Х. А. Самаранча як важную навіну для Рэспублікі Беларусь, які будзе спрыяць далейшаму развіццю спорту. Прэзідэнт ад імя Міжнароднага алімпійскага камітэта паабяцаў аказаць матэрыяльную дапамогу не толькі спартсменам Беларусі, але і дзецям чарнобыльскай зоны. Менавіта ў час свайго візіту Х. А. Самаранч змог чарговы раз адчуць тую бяду, што спасцігла наш народ у красавіку 1986 года.



**НА ЗДЫМКУ: сустрэча старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава КЕБІЧА з Хуанам Антоніо САМАРАНЧАМ.**

**Фота У. ШУБЫ.**

*З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ*

## У НАШАЙ ХАЦЕ СВАДЗЬБА БУДЗЕ




**У нашай хаце свадзьба будзе,**
**Ціда-рыда-рай!**
**У нашай хаце свадзьба будзе,**
**Ціда-рыда-ай-яй-яй!** 2 разы
**Бацька сына жаніць будзе, ай-яй-яй!**

**Пытаецца бацька сына,**
**Ціда-рыда-рай!**
**Пытаецца бацька сына,**
**Ціда-рыда-ай-яй-яй!** 2 разы
**— Што каштуе та дзяўчына, ай-яй-яй!**

**— Табе, бацька, не пытаці,**
**Ціда-рыда-рай!**
**Табе, бацька, не пытаці,**
**Ціда-рыда-ай-яй-яй!** 2 разы
**Што каштуе, трэба даці, ай-яй-яй!**

**Людзі едуць па ляшчыну,**
**Ціда-рыда-рай!**
**Людзі едуць па ляшчыну,**
**Ціда-рыда-ай-яй-яй!** 2 разы
**А я еду па дзяўчыну, ай-яй-яй!**

**Людзі едуць з ляшчынаю,**
**Ціда-рыда-рай!**
**Людзі едуць з ляшчынаю,**
**Ціда-рыда-ай-яй-яй!** 2 разы
**Я еду з дзяўчынаю, ай-яй-яй!**

**Людзі маюць, што казаці,**
**Ціда-рыда-рай!**
**Людзі маюць, што казаці,**
**Ціда-рыда-ай-яй-яй!** 2 разы
**Я маю каго кахаці, ай-яй-яй!**

**Людзі маюць, што рабіці,**
**Ціда-рыда-рай!**
**Людзі маюць, што рабіці,**
**Ціда-рыда-ай-яй-яй!** 2 разы
**А я маю, і з кім жыці, ай-яй-яй!**

# СТВАРАЕЦЦА КНІГА «ПАМЯЦЬ»

**У Лунінецкім раёне Брэсцкай вобласці (былой Пінскай), як і паўсюдна ў Рэспубліцы Беларусь, разгорнута работа па стварэнню кнігі «Памяць». На жаль, для нас застаецца «белай плямай» вялікая тэма, якая звязана з эміграцыяй нашых землякоў.**

**Просім адгукнуцца ўраджэнцаў горада Лунінца і Лунінецкага раёна, якія па волі лёсу ў розныя перыяды жыцця аказаліся за межамі Рэспублікі Беларусь. З удзячнасцю прымем іх успаміны для публікацыі ў раённай газеце, архіўныя фотаздымкі (з наступным іх вяртаннем). Матэрыялы будуць выкарыстаны пры напісанні асобных артыкулаў кнігі «Памяць». Калі ж сярод нашых землякоў былі ці ёсць людзі, дасягнуўшыя сваёй дзейнасцю значных грамадскіх вышынь у той краіне, якая стала для іх другой радзімай, яны стануць героямі асобнага раздзела нашай гісторыка-дакументальнай хронікі.**

**Свае лісты дасылайце на адрас:**
**225650, г. Лунінец Брэсцкай вобласці, рэдакцыя раённай газеты «Лунінецкія навіны», намесніку рэдактара**
**КАНАПАЦКАЙ Таццяне.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**КАРКАШУК Вольга Андрэеўна** шукае свайго дзядзьку **КАРКАШУКА Васіля Міхайлавіча,** які ў 20-х гадах выехаў у ЗША з вёскі Кустовічы Гарадзецкага сельсавета Антопальскага раёна Брэсцкай вобласці. Жыў у Чыкага, меў сям'ю.

Просьба да ўсіх, хто што-небудзь ведае пра **Васіля КАРКАШУКА,** яго дзяцей, стрыечных братоў і сясцёр **Вольгі КАРКАШУК,** адгукнуцца. Пісаць на адрас рэдакцыі альбо:

**Рэспубліка Беларусь, 225320, г. Баранавічы,**
**вул. Кірава, д. 42, кв. 50.**
**МАРОЗАВАЙ А. П.**

## ПАПРАЎКА

**У № 15 «Голасу Радзімы» за 9 красавіка 1992 года на першай старонцы ў матэрыяле «Вільня вітае нашу незалежнасць» дапушчана памылка. Аўтарам слоў гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» з'яўляецца не Купала, а М. Краўцоў.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 727.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12